Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 9 (97) | Вільня, 25-га ліпня 1936 г. | Год 4-ты.

## Хто на гэтым выйграе?

Пытаньне аб барацьбе з камунізмам паўстае ўва ўсіх так званых капіталістычных дзяржавах. І барацьба гэтая вядзецца з большым ці меншым напружаньнем у залежнасьці перш-на-перш ад унутранага стану тае ці іншае дзяржавы, а так-жа і ў залежнасьці ад ступені разьвіцьця камуністычных агентураў. Аднак у большасьці дзяржаваў барацьба гэная вядзецца выключна мэтадам паліцыйным. Камуністычная партыя пераважна залічваецца да арганізацыяў нелегальных і кожная праява акцыі гэнае партыі, а нават проста прыналежнасьць да яе караецца законам.

У Польшчы, напрыклад, паводле закону прыналежнасьць да камуністычнае партыі караецца вастрогам да 15 гадоў. Такія самыя большменш кары прадбачацца карнымі кодэксамі і іншых дзяржаваў. Зразумела, што ў залежнасьці ад зробленага праступленьня і асобы самога падсуднага кара гэная хістаецца ў даволі значных граніцах.

Як бачым, кары для камуністаў кожным кодэксам прадбачацца даволі значныя і дзеля гэтага варта прызадумацца над тым, чаму—не зважаючы на суровыя кары—камуністычныя працэсы ўсьцяж пашыраюцца.

У чым, фактычна, зьмяшчаецца атракцыйная сіла камунізму?

Адміністрацыйная ўлада пераважна старaецца вытлумачыць усё грашыма, якія кідае камінтэрн на камуністычную прапаганду. Бязумоўна ў значнай меры гэта справядліва, але аднак толькі ў значнай меры, а ня выключна, бо-ж часта здараюцца выпадкі, калі „рукі" камінтэрну аніяк дагледзецы не ўдаецца.

З нашага пункту гледжаньня, так званае, камуністычнае пытаньне павінна быць перадусім склясыфікавана, бо-ж нельга кожную праяву таго ці іншага антыдзяржаўнага выступленьня звальваць у адну, так сказаць,камуністычную бочку. Такое ўпрашчаньне зьявішчаў адміністрацыяй больш памагае камунізму, чымсь яму шкодзіць і дзеля гэтага мо' мы зьвяртаемся сьведкамі такой колёсальнай колькасьці камуністычных працэсаў.

Трэба было-б фактычна падзяліць усе гэныя працэсы на чатыры аснаўныя групы: 1) чыста камуністычныя, дзе дзеюць партыйныя людзі, беспасярэдня зьвязаныя з агентурамі камінтэрну, 2) камуністычныя па форме, а па зьмету—вынік правакацыйнае працы тых ці іншых платных агентаў, 3) проста антыдзяржаўныя выступленьні, нічога супольнага ня маючыя з камунізмам, а выкліканыя выключна незадаваленьнем з існуючага стану рэчы ды імкненьнем да больш радыкальнай разьвязкі ўсяго дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця і 4) не-антыдзяржаўныя, а хутчэй антыадміністрацыйныя выступленьні лёяльных грамадзян, пакрыўджаных тою несправядлівасьцяй, якая зроблена ім чыёюсь злою воляю.

Як бачым, з вышэйпрыведзенай клясыфікацыі, да сапраўды камуністычных працэсаў можна залічыць выключна першую групу і такія працэсы, фактычна, даволі рэдкія. Іх вельмі лёгка пазнаць і адрозьніць, бо-ж у такім выпадку мы заўсёды маем дзела з ярка выражанаю пастаноўкаю пытаньня. Значна трудней бывае з другою групаю, дзе падсудныя—пераважна лёгкаверныя, ашуканыя людзі, якія папаліся на вудачку таго ці іншага агента, які ў дадатак у большасьці выпадкаў зьяўляецца агентам адначасна з двох бакоў.

Зразумела, што для праступленьняў гэнае групы трэба прыкладаць зусім іншую мерку, а заданьнем адміністрацыйнае і судовае ўлады фактычна павінна было-б быць імкненьне раскрыць правакацыю з чыйго-б яна ня была боку, ды сурова пакараць перадусім правакатараў. Выкрыць-жа такога махера пры дружных высілках адміністрацыйнае і судовае ўлады, заўсёды-б удалося.

Трэцяя група павінна-б на сябе зьвярнуць ужо асаблівую ўвагу, бо-ж яна бязумоўна нічога супольнага з камунізмам ня толькі як з арганізаванаю партыяй, але нават як з ідэйным кірункам ня мае.

Зразумела, што праступленьні гэнае групы, як антыдзяржаўныя ў пэўнай меры будуць падпадаць пад тыя ці іншыя параграфы карнага кодэксу, аднак ужо чыста паліцыйныя мэтадаў барацьбы тут мала, бо-ж тут мы будзем мець дзела пераважна з барацьбою ідэйнаю, якую штыком ужо не пераможаш.

Да гэтага роду зьявішчаў дзяржаўная ўлада павінна падходзіць вельмі і вельмі асьцярожна, дасьледваючы дакладна ўсе прычыны, якія выклікалі незадаваленьне, прывеўшае да актыўных выступленьняў. Тут мы можам спаткацца з людзьмі, якія адважна бароняць сваю ідэю, будучы прасякнены як найбольшым патрыётызмам, а большасьць такога рода выступленьняў фактычна нельга падцягваць пад антыдзяржаўныя, а хутчэй іх можна было-б разглядаць, як звычайныя сацыяльна-грамадзкія рухі, скіраваныя мо' часта супроць пэўнай улады, але ня супроць дзяржавы, як такое. Тут патрэбны ўжо мэтады пераважна ўзгадаваўчыя.

Урэшце чацьвертая група — мо найбольшая—гэта спакойныя лёяльныя грамадзяне дзяржавы, даведзеныя да роспачы, ці то цяжкім эканамічным станам, ці то несправядлівасьцяй адміністрацыйнае ўлады.

Прыймаючы пад увагу, што пад гэную групу найбольш падпадае беларускага сялянства і работнікаў, затрымаемся на ёй крыху даўжэй.

Каб не опэраваць агульнымі выражэньнямі, прыпомнім некалькі канкрэтных выпадкаў:

На мінулым тыдні былі зьмешчаны ў „Kurjerze Wileńskim" два артыкулы: „Барацьба з камунізмам" і „Па нітцы да клубка", дзе парушаны дзьве балючыя справы: 1) эканамічнае палажэньне беларускае вёскі і 2) крыўдныя, несправядлівыя адносіны адміністрацыі.

Першая малюе нам тое жудаснае эканамічнае палажэньне вёскі Есьманаўцы, Гарадоцкае вол., Маладэчанск. павету, калі цэлая вёска апынулася бяз пашы для свае скаціны. 67 гаспадароў водзяць звыш 150 галоў скаціны дасло́ўна на шнурках па голых межах і дарогах. Ці-ж гэта ня можа давясьці да роспачы? А Есьманаўцы не становяць нейкага асаблівага вынятку: можа іншыя ня маюць бяды з пашаю, то маюць ня меншую бяду проста з беззямельлем і безрабоцьцем.

Есьманаўцы мелі пашу для скаціны па данай з 1866 г. Але гэную пашу ад Есьманаўцаў уласьнікі суседніх двароў судом адабралі, а сяньня кажуць, як піша „Kur. Wil", хай сяляне столькі скаціны ня трымаюць;—Паночку, яны-ж камуністы, яны хочуць нашай зямлі. Забралі-б усё.

Таксама і мясцёвая адміністрацыя ўважае есьманаўцаў за камуністаў, бо-ж яны ў сёлетнім годзе пачалі ізноў дабівацца сваей беларускай школы. Вось, як аб гэтым піша той-жа „Kurjer Wileński" з дн. 10 ліпня 1936 г.: «...Вось сорак з нечым гаспадароў вёскі падпісалі дэклярацыю, у якой просяць Кураторыю Віл. Шк. Вокругу адчыніць у вёсцы беларускую школу. Адміністрацыйныя ўлады бачаць у гэтым руку камуністаў, каторыя ў апошнія часы пачалі дзейнасьць якраз у гэтым кірунку і ў Маладэчанскім павеце. Гаспадары мусяць даказаць сваёй незалежнасьці ад камуністаў. Зацікаўленыя гаспадары станоўча цьвердзяць, што яны не-камуністы і не падлягаюць іх уплывам. — Жывём спакойна, усяму падчыняемся. Ня чураемся і польскага языка. Хочам толькі для нашых дзетак беларускую школу — казаў адзін з іх... Падпісаныя дэклярацыі з дамаганьнем беларускае школы трэба недзе пасьведчыць. Толькі войт можа гэта зрабіць бясплатна. Войт аднак ніколі ня мае часу, ніколі няма яго ў хаце, калі толькі прыйдуць пасьвядчаць подпісы. Замест войта ў гміне спатыкае прасіцеляў «пшадоўнік» паліцыі. А вы чаго? Камунізму вам захацелася? А карныя мандаты вы аплацілі? А «нужнікі»-та ў вас чыстыя? Гаспадары ўцякаюць да хаты, бо-ж з «пшадоўнікам» паліцыі лепш не спатыкацца».

Вось як спатыкае мясцовая адміністрацыя тых, хто жадае выконваць закон, выданы Соймам Польскае Рэспублікі.

Ці-ж тут можна знайсьці нейкае тлумачэньне? Ці-ж пасьля ўсяго гэтага можна вініць сялян за іх настроі, калі яны добра разумеюць, што прадстаўнік дзяржаўнае ўлады, стражнік, так сказаць, права і справядлівасьці — творыць перашкоды, раўназначныя абсалютнай забароне і нялічэньню з законам?

Дык над гэтым якраз трэба падумаць вышэйшай уладзе, ды скончыць раз з такімі супярэчнасьцямі ды недарэчнасьцямі.

Зусім згаджаемся з газэтай «Kurjer Wileński», якая кажа, што лепш законна зьліквідаваць усе няпольскія школы, чымся, ня гледзячы на фармальны дазвол, перасьледваць народ за яго абаснованае імкненьне да роднае школы.

Апошняе здарэньне ў Есь-

## Гарачыня.

Мусіць мала хто з нас помніць такі год, каб стаяла так доўга гэткая гарачыня, як сёлета. А пры гарачыні, як ведама, трапляюцца і навальніцы з пярунамі, ад якіх бывае шмат шкоды людзям,

Але сёлетняя гарачыня ў прыродзе выклікала пэўную гарачку і ў міжнародным жыцьці.

Звычайна, як толькі прыходзіла лета, у палітычным жыцьці як асобных дзяржаў, так і ў міжнародным жыцьці наступаў, так званы „агурочны час“, інакш кажучы, наступала цішыня. Розныя палітычныя дзеячы тады кідалі свае штодзенныя заняткі і хаваліся дзе-небудзь у зацішнае месца, каб мець магчымасьць забыцца аб розных важных справах ды супачыць.

Сёлета-ж, ня гледзячы на гарачыню, палітыкі розных краёў мусяць працаваць улетку яшчэ больш як узімку, бо-ж на сьвеце адбываюцца нечаканыя, або, правільней кажучы, зусім новыя зьявы.

Яшчэ людзі не пасьпелі разблутаць тэй мешаніны, якую выклікаў па сябе неспадзявана хуткі і мала кім прадбачаны канец італьянска-абісінскай вайны, а разам з тым скасаваньне гэтак ўрачыста абвешчаных санкцыяў, скіраваных супроць Італіі, ажно новая зьява як-бы ўскалыхнула ўсё міжнароднае жыцьцё.

Такім фактам зьяўляецца адбыўшаеся нядаўна паразуменьне Нямеччыны з Аўстрыяй, пры поўнай згодзе на гэнае паразуменьне Італіі.

Тут трэба ўспомніць, што дасюлешняя эўрапэйская палітыка, пасьляваенная укладалася між іншым пад уплывам супярэчнасьці інтарэсаў Нямеччыны ды Італіі, якая ня менш за Францыю ды Англію апякавалася незалежнасьцяй Аўстрыі, імкнучыся перадусім не дапусьціць да паразуменьня Аўстрыі з Нямеччынай, уважаючы такое паразуменьне за пачатак злучэньня ўсіх немцаў, у рэзультаце чаго мусіла-б зьмяніцца дасюлешняя палітычная карта Эўропы.

Так было ажно да італьянска-абісінскай вайны, якая ўнесла разлад між Італіяй з аднаго боку і Англіяй з Францыяй з другога боку, у рэзультаце чаго пачынаецца зьбліжэньне Італіі да Нямеччыны, аб чым найлепш сьведчыць адбыўшаеся ў пачатку ліпеня сёлетняга году нямецка - аўстрыяцкае паразуменьне. Мала таго: Мусоліні адмовіўся ад пляну адбудовы штрэзанцкага фронту, які быў намечаны ўвясну леташн. году і быў скіраваны супроць Нямеччыны, заяўляючы, што бяз учасьця Нямеччыны ня можа быць аніякай мовы аб адбудове бясьпекі Эўропы. Таксама на ўчасьце Італіі ў праэктаванай канфэрэнцыі лёкарнаўскіх дзяржаў Мусоліні годзіцца толькі пры ўмове, што ў гэнай канфэрэнцыі прыме ўчасьце і Нямеччына.

Зразумела, што такая палітыка Італіі вельмі ўзмацняе пазыцыю Нямеччыны. Замест існаваўшай перад гэтым магчымасьці абкружэньня і пэўнай ізаляцыі Нямеччыны, ствараецца магутны саглас дзяржаў Эўропы — Нямеччына, Італія, Аўстрыя, Вэнгрыя — да якога магчыма далучыцца Югаславія, якая зьвязана ў сваім гандлі найбольш з Нямеччынай ды Італіяй.

Як бачым, у міжнародным жыцьці Эўропы адбываюцца важныя зьмены, якія канчальна падарвуць аўтарытэт Лігі Народаў, а разам з тым і тую перавагу, якую мелі ў міжнароднай палітыцы Англія і Францыя.

Дык ня дзіва, што палітыкі і дыплёматы не зважаюць на гарачыню і пацеюць адны над тым, каб ход падзеяў апошніх тыдняў папхнуць наперад, а другія таксама ў поце стараюцца, каб як-небудзь гэныя падзеі хоць на кароткі час прытрымаць, добра ведаючы, што канчальна спыніць іх немагчыма.

## Дождж у часе пагоды.

У мінулы панядзелак была — кажучы стылем мэтэоролёгічных камунікатаў — сонечная пагода, амаль бязхмарная. Аднак ня гледзячы на гэта ішоў дождж, і то густы.

Памыліўся б усётакі той, хто гэтае зьявішча ўважаў-бы за нешта нязвычайнае; наадварот: паўтараецца яно з поўнай рэгулярнасьцяй што месяц, рожнячыся толькі багацьцем „ападаў“. Бо гэта ня звычайны дождж, перад каторым людзі хаваюцца пад страху ці парасон. Дождж гэты — гэта шматлікія выйгрышы, каторыя падаюць у цягненьнях Дзяржаўнай Лётарэі, а колькасьць іх залежыць ад клясы гэтае Лётарэі.

І вось 20 ліпня адбылося апошняе цягненьне другой клясы трыццаць шостае Лётарэі. У гэтым дню вылёсаваны былі ня толькі два галоўныя выйгрышы па сто тысяч злотых і сталы дзенны выйгрыш, але і тыя спасярод вялікшых выйгрышаў, каторыя асталіся яшчэ ў коле. Канчальныя вынікі цягненьня прадстаўляюцца такім чынам наступна:

Па сто тысяч злотых выйгралі нумары 97034 у Лодзі і 136803 у Пазнані, лепш кажучы ў тамтэйшай філіі аднэй з варшаўскіх колектураў. Пяцьдзесят тысячаў і дваццаць пяць тысячаў злотых дасталіся Кракаву на нумары 56840 і 64746; у Львове ўрэшце прададзены быў №170678, на каторы паў выйгрыш дваццаці тысячаў злотых.

Як бачым, гэта быў сапраўды „дождж“ выйгрышаў, дождж, каторы напэўна нікому не папсуў добрага настрою. Хто хоча мець шансы, каб і яго падобны дождж у будучым месяцы зрасіў, хай не забудзецца аднавіць лёс для трэцяй клясы, цягненьне каторай пачнецца трынаццатага жніўня бягучага году.

## Пара падумаць.

У працягу некалькіх гадоў беларускае праваслаўнае грамадзянства падавала на імя Сьв. Сыноду мэморыялы, высьвятляючыя агульнае палажэньне Царквы ў нашым краі і выражаючыя яго пажаданьні і імкненьні.

Царкоўная палітыка апошніх гадоў ішла па шляху „аўтакэфальнасьці“ паасобных епархіяў, ўзмацненьня расейскіх уплываў ў царкоўным жыцьці, ігнараваньня пастулятаў беларускага праваслаўнага грамадзянства. Іерархі нашых епархіяў прыслухоўваліся выключна да голасу і апініі расейскага грамадзянства; беларускі народ лічыўся імі інэртнай масай, няздольнай да актыўнага праяўленьня свае волі. Таму няма нічога дзіўнага, што на мэморыялы беларускага грамадзянства Сьв. Сынод не зварочваў ніякае ўвагі.

Аб цяжкім палажэньні Царквы, аб пашырэньні сярод народных гушчаў няверра і бязбожжа, аб патрэбе каранных рэформаў царкоўнага жыцьця—шмат пісалася ў беларускай прэсе. Наша іерархія, апіраючыся на жменьку расейскіх палітыканаў, якія бачаць ў Царкве адзіную рэальную падставу для „русскаго дѣла“, прадаўжае вясьці сваю антыбеларускую палітыку, а народ пачаў разглядаць сваю Царкву толькі, як інстытуцыю выконваючую абраднасьць праваслаўнага культу.

Цяперашняе палажэньне Царквы вымагае ад духавенства і іерархіі выключнай адданасьці Царкве, вымагае ахвярнасьці і „апостольскаго рвенія“. Дабро Царквы павінна сабою засланяць ўсё асабістае, усе чэсталюбныя думкі і імкненьні.

Заместа гэнага мы бачым, што наша іерархія пайшла „шляхам найменшага супраціву, шляхам угодлівасьці „сильным міра сего“.

Царква — гэта сьвятое сьвятых беларускага народу, яго нацыянальная традыцыя. У гістарычным прошлым беларускі народ ахвярна змагаўся за сваю Царкву: ніякім Пацеям і Тэрлецкім ня ўдалося перамагчы гэную нацыянальную традыцыю. Здавалася-б, што ў наш час, ў час узросту нацыянальнае сьведамасьці народных масаў, Царква павінна была-б зьліцца з народам, выконваючы такім чынам сваё назначэньне — аб'еднаньне ў адно цэлае верных, духавенства і іерархію. Наглядаецца якраз адваротнае: замест аб'еднаньня, ізаляванасьць пастыра ад пасомных.

Іерархія, як ня маючая беспасярэдняе лучнасьці з народнымі гушчамі, гэную ізаляванасьць адчувае мала. Будучы добра матэр'яльна забясьпечанай, пад ўплывам свайго акружэньня, іерархія цьвердзіць, што „все обстоит благополучно“, а таму чакаць ад нашае духоўнае ўлады рэформаў, якія-б урэгулявалі нашае царкоўнае жыцьцё, ня прыходзіцца. Усе цяжары ў зьвязку з цяперашнім курсам царкоўнае палітыкі нясе радавое сельскае духавенства.

Духавенства часта жаліцца, што сярод народных гушчаў ўзмацняюцца няверра і бязбожжа.

Але-ж гэта натуральны вынік цяперашняга курсу царкоўнае палітыкі. Раз духоўны пастыр ня мае ўплыву на сваю паству, то тым самым расчышчае дарогу для матэр'ялізму, з яго няверрам і бязбожжам.

Беларускі народ, ня гледзючы на ўсялякія гістарычныя пэртурбацыі, захаваў свой нацыянальны воблік, свае нацыянальныя традыцыі, сваю мову; лічыць ўсё гэта сваім нацыянальным скарбам. Хто хоча шчыра яму служыць, карыстацца яго паважаньнем і любоўю, той не павінен чурацца ні мовы яго, ні звычаяў, ні традыцыяў. „Нестроенія“ ў Царкве, ізалянасьць пастыра ад пасомых і ўсе сумныя вынікі такога палажэньня — гэта рэзультат таго, што духавенства далёка стаіць ад народу. Патрэбна радыкальная зьмена дасюлешняй ідэолёгіі, і пры тым зьмена шчырая.

Радавое сельскае духавенства, як непасярэдня даткнутае, калі можна так сказаць, царкоўным крызысам, пачынае шукаць шляхоў направы сытуацыі. Саматугам, без апрабаты сваёй духоўнай ўлады, некаторыя з духавенства пайшлі на кампрамісы, пайшлі, бо адчуваюць, што існуючы курс царкоўнае палітыкі можа лёгка давясьці да „пастырства без пасомых“. Пачынаюць гаварыць пропаведзі ў беларускай мове, выкладаць Закон Божы пабеларуску, пачынаюць самі прызнавацца, — хоць і асьцярожна, з агаворкамі, — да свайго беларускага паходжаньня, але народ ня вельмі ім давярае, бо яшчэ ня даўна бачыў іх, як староньнікаў русафільскай палітыкі, не прызна-

---

масьціць (мосьціць), а Мікола гвазьдзіць (гвозьдзіць); катам зам. *катом* (ад кот, а не ад кат), перавесьці, на сваей (ёй), дуброві (е); каля хлеву (хлява) тына (тыну) няма, няма плота (у), на выраю (і), шпакам (ом), сна—сну, на лядзі (е), пры гаю, у яго нутру (ы), аб зайцах (ох), лосі—ласі; у саху можна запрагчы валоў (валы), не падразае (падрэзвае), крэмня (крэменя), коміны, комінаў (каміны-каміноў), да берага (у), стопчыцца (ацца), да ста (сто, сту) гадоў.

4. *Полёнізмы і небеларускія звароты:*

*старажытны* — старадаўны, тхара (ад польск. tchórz) зам. — шашка. Фабрычнае палатно прыгажэйшае ад хатняга (за хатняе), *тытун*—табака, напрыкрыла; горшыя ад (зам. *за*) Бурчыка, дзюравы, дзюрку (дзіравы-дзірку). Аджыўляецца (корміцца), земскі (зямны) рай; прышлае (будучае), надзвычай (на), справ (пру) жыноўка, малатаркі (ад młócarki?)—малатарні, наражацца.

5. *Украінізмы*:

матузок, шуляк (каршун?), хвіліну (мамэнт).

6. *Штучныя і малазразумелыя словы*:

ілжа (мана), гачка (?), у вахоту (ахвоту), паддувала замест *мех* (кавальскі), скрабіна (?), найвялікшыя (найбольшыя), вакенцаў—ваконцаў, Германіі (Нямеччыне), дэнцам (ад *дно*?).

7. *Небеларускія формаю прыказкі:*

„Чоран мак, ды смачан“. „Ня зьмерыўшы броду, ня суньса (лезь) у воду“.

Зразумелая рэч, што ня ўсе гэтыя заганы апынуліся ў „Першых зернятках“ з віны гр-на С. Паўловіча. Ён кампіляваў граматку з твораў розных аўтараў і падае іх так, як яны былі дзе-небудзь надрукованы, можа нават і вельмі даўно — да зьяўленьня на сьвет беларускае граматыкі, або пасьля „скалечаньня“ яе бальшавікамі.

Але, як дасьведчанаму пэдагогу, нельга дараваць аўтору граматкі і яго некаторых недаглядаў.

Напр., у артыкуліку „Белавеская пушча“ чытаем гэткі сказ: „Зубры не накідваюцца (лепш было-б: ня кідаюцца, не нападаюць) на людзей, хаця бывалі выпадкі, што забівалі сваімі рагамі“.

Дык знач. *накідваюцца*, хоць і рэдка?

У арт. „Электрыка на службе (у) чалавека“, чытаем:

„У Амэрыцы, Германіі, Саветах (?) і іншых краінах электрычная машына цалком заступае працу каня і чалавека“.

Чытаючы гэты сказ, дзіця можа падумаць, быццам у „іншых краінах“ электрыка вытварыла ўжо запраўдны „рай“.

А тымчасам ня чуваць нешта, каб на салавецкіх, уральскіх ды іншых *лесозаготовках* лес выкарчоўваўся электрыкай, а ня рукамі катаржан?

Ізноў-жа добра ведама, што ў земляробстве нідзе на сьвеце электрычная машына цалком не заступае працы каня і чалавека, бо немагчыма лазіць на полі з кабэлем за бараною. *Цалком* не заступае чалавека электрыка і ў шмат якіх галінах прамысловасьці.

На што-ж тады патрэбен быў-бы на сьвеце чалавек? Байкі баяць пра... электрыку?

У арт. „Славяне“, паміж іншым, сказана:

„Беларуская мова належыць да ўсходняе групы славянскіх моваў, таму і мае найбольш супольнага з моваю расейскаю (бальшавікі цяпер гэтую „супольнасьць“ праводзяць усімі мерамі ГПУ — Рэд.) і украінскаю, бо Расея і Украіна, як і Беларусь, знаходзяцца на *Усходзе* Эўропы“...

Не стае толькі ўсходняе легенды вучоных-маскалёў аб „праРускай“ мове!

Ці нельга было падабраць для „Першых зернятак“ лепшага вершыка, як „Будучыня“ Галубка з вялікімі шурпатасьцямі, дзе да рыфмы „хутчэй“ падагнана рас. форма „*дней*“ (бел. *дзён*), або зноў улеплена гэткая нямузычнасьць: „Настане дзень, надойдзе час, мы крэпку столь зьвядзём і лепшай *дудучыняй* для нас быць мусіць новы дом“.

Верш М. Крапіўкі з дзіўна-няправільнымі націскамі:

„Глеба чорна, ў руках сіла,
Толькі нашых гаратаяў (ёў)
Некась (?) мара ўсё звадзіла
(зводзіла)
Дзесь за межы — да выраяў“.

Мусі проста ад няўважлівай карэктуры знаходзім адны і тыя самыя словы, раз адбітыя так, а другі—іначай, і наагул памылкі: *каляды* (з мал. літары) і *Коляды*, зерняткі — зярнятак, сьплясьці, Эгьпет, вяўчаняты, з дошак, Атнося (Антося).

Ці-ж трэба дадаваць, што „Першыя зерняткі“ з усімі вышэйпералічанымі заганамі нельга назваць удачлівым засевам, бо нельга-ж засьмечваць чыстае мовы дзетак-беларусаў!

*б. Настаўнік.*

ваўшых беларусаў за асобную нацыю.

Тое, што нішчылася ў працягу стольківх гадоў, направіць адразу вельмі цяжка. Але ўжо настаў час канчальна схаваць ў архіў „незбыточныя мечтанія“ аб уваскрошаньні „былого“ і зьвярнуць усю сваю ўвагу на сумнае сучаснае, бо жалезны закон жыцьця змушае сельскае духавенства адчуць на самім сабе і сваім матэр'яльным становішчы ўсе дрэнныя вынікі дасюлешняй палітыкі. Вось чаму сельскае духавенства, не нарушаючы кананічных правілаў аб „послушаніи и смиреніи“, павінна само пачаць выконваць свой першы і сьвяты абавязак — служэньне Царкве і Народу.

Царква —гата жывы арганізм, цесна зьвязаны з народнаю гушчаю верных. Разлад паміж духавенствам і вернымі выклікае смуту, якая можа прывесьці да развалу.

Духоўны пастыр беларускага народу не павінен чурацца народу, сярод якога лёс паставіў яго вясьці духоўную працу; ён павінен зжыцца з народам, шанаваць яго мову, звычаі і традыцыі.

Царква можа выконваць сваё назначэньне толькі тады, калі духоўны пастыр са сваёю паствою складаюць адно неразрывальнае цэлае; у гэным выказваецца значэньне Царквы ў жыцьці народу, яе аўтарытэтнасьць і ўплывовасьць. Інстынкт самазахаваньня павінен падказаць духавенству неабходнасьць падыйсьці бліжэй да душы народу. Замест таго, каб быць жрэцом рэлігійнага культу, адасобленым ад народу, духаўнік павінен стацца духоўным народу і яго духовым павадыром.

Далейшы лёс нашае Царквы ў вялікай меры будзе залежыць ад шляху, якім пойдзе нашае духавенства. Аб гэтым пара падумаць усім адказнным за лёс Царквы, і то падумаць глыбака і шчыра.

*У. Б.*

## У Гішпаніі ізноў рэвалюцыя.

Хоць цяпер на сьвеце наагул нямя супакою, але ў некаторых краёх амаль не сьціхаюць розныя замешкі. Да такіх краёў належыць Гішпанія, дзе ізноў пачалася рэвалюцыя.

16-га і 17-га ліпеня сёлетняга году ў гішпанскіх афрыканскіх калёніях Марокка адбываліся вайсковыя манэўры. Па манэўрах войска, заместа таго, каб разысьціся па мясцох свайго кватараваньня, падняло бунт, скіраваны супроць цяперашняга гішпанскага ўраду. На чале збунтаваўшагася войска стаў ваенны губэрнатар у Марокку, гэнэрал Франк. Збунтаваўшыяся войскі, захапіўшы ў свае рукі важнейшыя гарады і стратэгічныя пункты ў Марокку, пачаліся перапраўляцца ў Гішпанію, дзе ім удалося захапіць некалькі большых гарадоў, пераважна ў паўдзённай Гішпаніі. На бок паўстанцаў перайшло некалькі ваенных караблёў і пэўная частка самалётаў. Дасюль паўстаньнем кіруюць вайсковыя гэнэралы і афіцэры.

Гішпанскі ўрад адразу пачаў вострую барацьбу з паўстаўшым войскам, высылаючы супроць паўстанцаў астаўшаеся верным ураду войска, у якім каманду пераняні ўнцер-афіцэры, бо ўрад не давярае афіцэрам. Адначасна ўрад зьвярнуўся да рабочых з заклікам абароны рэспублікі ад нападу з боку фашыстаў. Дзеля таго ўлады раздалі рабочым аружжа, урад жа радзіць роботнікам рабіць забастоўкі там, дзе ўладу пяроймуць у свае рукі паўстанцы.

Да гэтага часу барацьба ўраду з паўстанцамі прадаўжаецца і няма ведама, чым скончыцца.

## Францыя ваҏужае Гішпанію.

Гэтымі днямі ў Ле-Буржэ спусьціліся два гішпанскія афіцэры-лётчыкі, якія, як пішуць правыя газэты, прыбылі ў Парыж з асобай місіяй — здабыць у французскага ўраду для гішпанскага „народнага фронту“ аружжа, неабходнае дзеля здушэньня паўстаньня. Транспарт гэтага аружжа павінен складацца з 25 самалётаў-бомбавозаў, вялікай колькасьці гарматаў і 12 тысячаў самалётных бомбаў. У порце Байонна, быццам, стаіць параход „Альтунамендзі“, гатовы адплыць з транспартам аружжа ў Більбао.

Дэпутат Домманж выступіў у палаце дэпутатаў з запытаньнем, ці сапраўды французскі ўрад аддаў у распараджэньне гішпанскаму ўраду аружжа і амуніцыю, і калі — так, дык на аснове якога дагавору гэтая помач зроблена.

## Ціж-бы за Аўстрыяй і Чэхаславаччына?

Француская газэта „Эвр“, паклікаючыся на лёнданскія крыніцы, паведамляе, што прэзыдэнт Бэнэш выслаў у Бэрлін аднаго з сваіх блізкіх супрацоўнікаў, дэпутата чэхаславацкага парляманту, які атрымаў заданьне прыступіць да перагавораў з прадстаўнікамі нямецкага ўраду ў справе згоднага сужыцьця між Бэрлінам і Прагаю.

Падчырківаючы вялікую важнасьць гэтага дыплёматычнага шагу Чэхаславаччыны, газэта адначасна падчырківае і тое, што Чэхаславацкі прэм'ер Годжа, праяжджаючы праз Вену, навязаў кантакт з кругамі, блізкімі да аўстрыяцкага канцлера Шушнінга.

## Нямецкая экспансыя на Балканах.

Паводле вестак аўтарытэтных аўстрыйскіх гаспадарчых колаў, адным з вынікаў нядаўнай паездкі Шахта на Балканы зьяўляецца тое, што ў хуткай будучыне мае быць адчынены цэлы рад аддзелаў Рэйхсбанку на Балканах. Галоўны аддзел Рэйхсбанку будзе адчынены ў Букарэсьце, яго філіі — Белградзе, Софіі і Афінах. Урады Югаславіі і Грэцыі далі ўжо сваю згоду на гэты праэкт.

## Калёніі для Нямеччыны.

З Лёндану паведамляюць, што паводле дадзеным з парлямантарных колаў, ангельскі ўрад гатоў пайсьці на пэўныя калёніяльныя ўступкі Нямеччыне, калі апошняя ясна і сьцісла акрэсьліць сваё адносіньне да эўрапэйскіх справаў. Факт, што перагаворы ў гэтай справе ўжо з Бэрлінам пачаты, вельмі яскрава гаворыць сам за сябе. Характар уступак яшчэ не акрэсьлены, але дапушчаюць, што гутарка ідзе аб калёніях пры гвінэйскім заліве.

## З усяго сьвету.

— У *Палестыне* беспарадкі ўсьцяж трываюць. Антыжыдоўскія выступленьні арабаў прынялі проста рэвалюцыйны характар.

— Паўстаньне *Кантону* проціў *Нанкіну* ў Кітаі скончылася, як пішуць газэты, канчальнай перамогай Нанкіна.

— У *Лёндане* пачалася *канфэрэнцыя К-ту трох*, у склад якога ўваходзяць Англія, Францыя і Бэльгія. Канфэрэнцыя мае на мэце разгляд гданскае справы.

— Старшыня народнай партыі Маўраміхаіл на паседжаньні выканаўчага камітэту партыі заявіў, што некаторыя сябры сяньняшняга ўраду на чале з міністрам унутраных справаў Дзілстакісам рыхтуюць унутраны пераварот, з мэтай ўстанаўленьня ў *Грэцыі* дыктатарскага рэжыму.

— З *Рабата* ў *французскім Марокку* паведамляюць аб вострай сутычцы між часткай мясцовага мусульманскага насельніцтва з жыдамі. Ня гледзячы на энэргічную і сваячасную інтэрвэнцыю паліцыі, у часе гэтай сутычкі па абодвух баках было ранена 20 чалавек.

— Гэтымі днямі *бэльгійскі міністар замежных справаў Спаак* выступіў у парляманце з прамоваю, у якой заявіў, што прынцып непадзельнасьці міру і колектыўнай бясьпечнасьці ня вытрымоўвае ніякай крытыкі. Бэльгія, заявіў міністар, будзе ваяваць толькі тады, калі сур'ёзная небясьпека будзе пагражаць або незалежнасьці самой Бэльгі або бэльгійскаму Конгу.

Прамова гэтая выклікала ў Парыжу трывогу. Францыя бачыць у ёй намер Бэльгіі захаваць поўны нейтралітэт і таму ня можна разьлічаць на Бэльгію ў Лёнданскай канфэрэнцыі. Відаць Бэльгія атрымала ад Нямеччыны гарантыю бясьпечнасьці.

— *Турцыя ўзмацняе праліўы.* У рэмілітарызаванай паласе праліваў будзе разьмешчаны цэлы корпус. Турэцкі ўрад намераны пабудаваць у Чанак-Кале вялікую радыё-станцыю.

Войскі прыступілі ўжо да фортыфікацыйных працаў.

— Міністэрства замежных справаў у Эгіпце атрымала ад консуля ў *Адзіс-Абэбе* паведамленьне аб тым, што *сільныя атрады абісінскіх войскаў павялі наступленьне з усіх бакоў на Адзіс-Абэбу.* Каля гораду ідуць крывавыя баі.

— З Хартума паведамляюць, што *войскі генэрала Гелёзо, якія пасоўваліся ў старану Ашэбо, пасьля баёў з шматлікімі абісінскімі партызанцкімі атрадамі, змушаны былі адступіць у Мегу.* Насельніцтва хавае ў горах сваю маемасьць і скаціну.

— Як паведамляюць з *Адзіс-Абэбы* на рынку ў прысутнасьці некалькіх тысячаў мясцовага насельніцтва адбыўся ваенны суд над 66 абісінцамі, каторыя не аддалі аружжа італьянскім уладам. За гэта ім пагражала кара сьмерці, але віцэ-кароль захацеў даць доказ мягкасьці і вялікадушнасьці італьянскіх уладаў, і дзеля гэтага прыгавор адмяніў. Абвінавачаныя выпушчаны на волю. Гэта выклікала энтузыязм сярод мясцовага насельніцтва, а звольненыя прысягнулі, што ніколі не падымуць рукі на італьянцаў.

— *У Вэнгрыі* ад 1 лістапада г. г. будзе цалком забаронена жабрацтва. Ува ўсіх гарадох цяпер высьвяляецца палажэньне і колькасьць жабракоў. У будучыне за лёс тых жабракоў, каторыя сапраўды павінны жыць з падачаў, будуць адказваць мясцовыя прыватныя і гарадзкія дабрадзейныя інстытуцыі.

## Таварыства Беларускай Асьветы

гэтым абвяшчае, што

**31 жніўня 1936 году**

**адбудуцца ўступныя экзамены**

## у Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію

### ВАРУНКІ ПРЫЙМА:

**У І клясу** прыймаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты), якія: 1) будуць мець на 1-га верасьня 1936 г. ня менш 12 і ня больш 16 гадоў і 2) скончылі 6 (шэсьць) ці 7 (сем) аддзелаў пачаткавай школы. Тыя, хто прадставяць пасьведчаньні аб скканчэньні 6 ці 7 аддзелаў пачаткавае школы, здаюць пры паступленьні ў І-ю (былую III) клясу толькі паверачны экзамен з польскае мовы, арытмэтыкі і географіі. Кандыдаты, якія ня маюць успомненых пасьведчаньняў пачаткавае школы здаюць поўны экзамен у абыйме 6-ці аддзелаў пачаткавае шлолы.

**У ІІ клясу** прыймаюцца дзеці па экзамену з усіх прадметаў у абыйме праграмы І кл. гімназіі, калі на 1-га верасьня 1936 г. будуць мець ня менш 13 і ня больш 16 гадоў,

УВАГА: Кандыдаты, якія скончылі 7 аддзелаў пачат. школы ў бягучым шк. годзе могуць здаваць экзамен у ІІ клясу толькі з дазволу Куратарыі Віл. Шк. Вокругу.

### Заявы прыймаюцца да 15-га жніўня 1936 г.

Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку, 2) школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, 4) дэклярацыю аб тым, што кандыдат па нацыянальнасьці — беларус ды пераслаць на Р. К. О. (блянкет можна купіць на кожнай пошце) 10 зл. за экзамен па наступнаму адрасу: „Filija białoruska Państw. Gimn. im. J Słowaskiego w Wilnie P. K. O. № 33.219.

УВАГА: Заявы павінна быць падпісаны толькі бацькамі, або апякунамі.

Пры гімназіі ёсьць

### хлапцоўскі і дзявочы інтэрнаты.

Утрыманьне ў інтэрнатах (кватэра, апал, сьвятло, абед і дагляд — бяз сьнеданьняў і вячэраў—) каштуе 15 злот. у месяц. На сьнеданьне і вячэру даецца толькі кава, а хлеб, сала, ці масла і цукар трэба мець сваё.

Плата за навуку ў паўгодзьдзе — 110 зл. Бедныя вучні(цы), калі будуць мець за І паўгодзьзе добрыя пасьпехі могуць на 2-ія паўгодкі атрымаць зьніжку платы. Для вельмі бедных, а здольных вучняў і вучаніцаў, Беларускае Дабрадзейнае Т-ва і Аб'еднаньне Беларускіх Жанчын з ІІ паўгодкаў вызначаюць стыпэндыі.

На экзамен дзяцей трэба прысылаць у Вільню ўжо **28 жніўня**.

Беларускае Дабрадзейнае Т-ва заапякуецца прысланымі кандыдатам і прыгатуе для іх на час экзаменаў кватэру і утрыманьне.

**Т. Б. А.**

**Уступайце як сябры ў Т-ва Беларускае Асьветы.**

## Паштовая скрынка.

**Есьманаўцам, Горадоцкае вол., Маладэчанскага павету.** *Гэтым паведамляем, што пісьмо Ваша атрымалі. Таварыства Беларускае Асьветы ў Вашай справе зрабіла захады перад Цэнтральнымі Уладамі ў Варшаве. Думаем, што гэныя захады напэўна прынясуць пазытыўныя рэзультаты.*

**Т. Б. А.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.